ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

5 • 2017
май

Час цяпнуць і перакусіць!

Пётр КОЗІЧ.













Павел ГАРАДЦОЎ.

## Сяргей ПРЫЁМКА

# «СВЕДКІ»

*Байка*

Аднойчы у рацэ Карась
Ускаламуціў дужа гразь –
Пагодлівым вясеннім днём
Падсілкаваўся матылём.
І трэба ж здарыцца такому:
Якраз ляцеў Шчупак дадому,
Заплюшчыў на імгненне вочы
Ды на вялізны корч наскочыў.
Здаецца, сведак не было,
А плётак хвост – на ўсё сяло.
Жук кажа: «Бедны Шчупачок!
Папаўся сёння на кручок,
І зараз недзе на патэльні
Яго чакае жар пякельны».
А Жаба лапай б'е у грудзі:
«Невінаватыя тут людзі!
Нядаўна чула я ад Рака,
Што захварэў наш небарака,
Наклаў з адчаю плаўнікі
На лёс гаротлівы такі».
***
Ад псеўдасведак не схавацца
Ні ў хатцы, дружа, ні ў палацы.
Пакуль жывём – да той пары
Мыць косці будуць плеткары.

*г. Мінск.*



Алег ГУЦОЛ.




Пётр КОЗІЧ.




Добрая сям'я – такая, у якой муж і жонка днём забываюць пра тое, што яны палюбоўнікі, а ноччу – пра тое, што яны муж і жонка.
*Жан Ростан, французскі вучоны*

Кошт жыцця ўвесь час расце, але попыт на яго не зніжаецца.
*Лоўрэнс Джордж Пітар, амерыканскі пісьменнік*

У каго вялікі розум, таму трэба яшчэ больш розуму, каб кіраваць гэтым розумам.
*Аляксей Талстой, рускі пісьменнік*

Ці ведаеце вы, наколькі вялікая жаночая цікаўнасць? Амаль такая ж, як і мужчынская.
*Оскар Уайльд, англійскі пісьменнік*

Мужчыны толькі робяць выгляд, быццам не разумеюць жанчын. Гэта ім танней абыходзіцца.
*Яніна Іпахорская, польская пісьменніца*

Разбойнік патрабуе кашалёк або жыццё; жанчына – і тое, і другое.
*Сэмюэл Батлер, англійскі пісьменнік і мастак*

Мастацтва быць мудрым заключаецца ва ўменні ведаць, на што не варта звяртаць увагі.
*Уільям Джэймс, амерыканскі філосаф і псіхолаг*

Алеся НІКІФАРАВА

# Купляць таннейшую і піць ад радасці!

*Фельетон*

Кажуць, па славянскіх рэспубліках былога Савецкага Саюза Смерць ходзіць менавіта з бутэлькай гарэлкі ў руцэ. Дык ці не падаецца вам, што гэты метафарычны вобраз сапраўды апісвае нашы рэаліі? І вось вам яркі доказ.

*Стаю я нядаўна каля дома на вуліцы Платонава ў Мінску, дзе здымаю кватэру, і тут раптоўна з дзвярэй пад'езда вывальваюцца двое «сяброў». Пачынаюць мітусіцца і неўзабаве адзін кажа:*

*– Гэй, Вань, хіба мы не нармальныя мужыкі?*

*– Самыя звычайныя, Санёк! – адказвае другі.*

*– Вось! Папрацавалі – можна выпіць, а назаўтра дазваляецца і пахмяліцца.*

*– Ага, твая праўда! – прамовіў Ваня ўхвальна.*

Такія рытуалы культурнага выпівання для гэтых суседзяў звыклыя. Хаця кожнаму – і Вані, які жыве ў кватэры насупраць маёй, і яго сябру Саньку – павінна быць зразумела, што алкаголь наносіць жахлівы ўдар па ўсім арганізме. Гэта ж відавочна: печань, сэрца, мозг, палавая сістэма пакутуюць ад спіртных напояў.

*– Паглядзі на мяне, Санёк, – амаль закрычаў Ваня.*

*– Га? – здзіўлена зірнуў на яго сябра.*

*– Ці можа нешта, што так нагадвае ваду, забіць арганізм дарослага, дужага чалавека? – з іроніяй спытаў мужчына.*

На жаль, нягледзячы на высокі ўзровень звязанай з алкаголем смяротнасці ў Беларусі, надзейнай статыстыкі адносна алкагольных страт няма. Апошнія даныя ўказваюць прыкладна на 4,3% ад агульнай смяротнасці. Сярод асноўных прычын пагібелі людзей узгадваецца нелегальны, або «смалены» алкаголь.

Напрыклад, у такой блізкай да нас Расіі кожная трэцяя бутэлька элітных віскі або рому папулярных марак – кантрафакт. І ўсе пра гэта ведаюць.

*– Вань, возьмем бутэльку «чарніла»! – прапаноўвае Санёк.*

*– Я ж не супраць, толькі дрэнна мне пасля яго, – пачухаў жывот сябра.*

*– Затое сэканомім! – Санёк па-змоўніцку пацягнуў Ваню за рукаў курткі.*

*– З гэтага і трэба было пачынаць! – здзівіўся геніяльнасці ідэі мужчына.*

Асаблівую ўвагу на кантрафактны алкаголь грамадства звярнула летась. Тады на рынку пачало




Алег ГУЦОЛ.




Пётр КОЗІЧ.

з'яўляцца ўсё больш «смаленых» алкагольных напояў. Так, у пачатку гэтага года пад Івацэвічамі затрымалі машыну, загружаную гарэлкай «Царская охота» і спіртам у пяцілітровых каністрах. Усяго там было дзесяць тысяч літраў. І каб не супрацоўнікі праваахоўных органаў, такі ж аматар пахмяліцца, як наш Іван, мог бы падняць свой апошні тост у жыцці.

Амаль увесь алкаголь невядомай якасці трапляе ў Беларусь з Расіі. Тут ёсць свае пакупнікі, гатовыя набыць гарэлку танней, не пытаючыся пра якасць і паходжанне напою.

*– Я сёння гарэлку не буду...*

*– Вань, выпіўка – гэта неабходнасць. Аддаць усю зарплату на гарэлку – гэта гора. Таму давай купляць таннейшую і піць не ад гора, а ад радасці!*

І ці можаце вы сабе ўявіць: зараз продаж легальнага алкаголю зніжаецца, бо расце плынь кантрафактнага. Іван з сябрам па-ранейшаму п'юць, але рызыкуюць памерці пасля чарговага застолля з танным спіртным.

У Баранавічах два гады таму ў звычайнай кватэры супрацоўнікі міліцыі знайшлі цела 45-гадовага мужчыны. Паводле папярэдняй версіі, прычынай смерці стала атручванне «смаленым» алкаголем.

Напярэдадні Аляксандр Уладзіміравіч разам з сябрам Мікітам Іванавічам чакалі Новага года. Мужчыны вырашылі сустрэць свята на тыдзень раней. Так яны спадзяваліся яго трошкі працягнуць. І вось дзевятнаццатага снежня: застолле, салёныя агуркі, каўбаса і бутэлькі «смаленай» гарэлкі, якая так лёгка пілася...

...Апамятаўся Мікіта Іванавіч толькі ў момант, калі ў дзверы пастукалі. Пачуліся галасы, усё вакол загрукатала, але ён нічога не бачыў, і ў галаве яго не было ніводнай думкі.

Выявілася, што Аляксандр Уладзіміравіч памёр падчас працяглага застолля. Цела знайшлі толькі дзякуючы жонцы, якая тры дні шукала мужа. Гаспадар кватэры Мікіта Іванавіч нават не заўважыў, як і калі памёр яго сябар. Ён працягваў святкаванне Новага года, па інерцыі глытаючы пякучы напой.

І ці варта яно таго? Хіба алкаголь – адзінае выйсце, неабходнасць, дзеля якой ахвяруюць жыццём? Проста такія, як Іван, Санёк, Аляксандр Уладзіміравіч, Мікіта Іванавіч, занадта слабыя, каб прызнацца: «Не, сябры, я гэтую гарэлку не буду, мне ад яе кепска». Тым больш яшчэ нікому гэтая «смаленая» дрэнь не пайшла на карысць.

*г. Віцебск.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.

## Восем гузакоў

«Ці ёсць на маім лобе гузакі?» –
Пытаецца ў сустрэчнага з пагрозай,
Паркан абняўшы моцна ў дзве рукі,
На вуліцы мужчына нецвярозы.

Спыніўся, трохі здзіўлены, прахожы
І здолеў у адказ адно сказаць:
«Цябе, магчыма, гэта устрывожыць,
Але гузоў нямала – цэлых пяць».

Відаць, апанаваў п'янчугу сорам,
Навобмацак пайшоў, нібы сляпы.
Ды перад тым сказаў сабе з дакорам:
«Да хаты засталося тры слупы».

**Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*

# Другая справа, або Жонка-болька

*Гумарэска*

– Бываюць жа прыгожыя, фігурыстыя і пры гэтым прыдзірлівыя! – Сямён Тараскін са смехам у голасе расказваў сябрам па гаражным кааператыве пра сваю жонку Ядзю.

Мужчына яе слухаўся, баяўся, патроху абдурваў, а ў глыбіні душы кахаў і жартаўліва называў «жонкай-болькай». Тая ж на самай справе мела не дужа добры характар, таму і патрабавала ёй увесь час дагаджаць.

Так выйшла і на гэты раз. Загадала Ядзя купіць у новую кватэру дамафон. Выдала мужу патрэбную суму грошай. Той хутка выканаў заказ і прынёс карыснае прыстасаванне. Жонка паглядзела, пакруціла яго ў руках і зморшчыла носік:

– Ён мне не падабаецца. Не таго колеру. Паглядзі на нашы шпалеры ў калідоры, яны ж блакітныя з шэрымі ўзорамі. Гэты тэлефон-дамафон будзе на іх фоне, як той гуз на лбе. Ды і з белага хутка ператворыцца ў брудна-чорны. Ідзі і памяняй яго на шэранькі.

Цярпліва выслухаўшы сваю жонку-больку, Сямён папрасіў яшчэ грошай:

– Трэба даплаціць, бо белы быў самы танны, шэры каштуе больш! – пераканаўча і на поўным сур'ёзе заявіў ён сваёй палавіне.

А сам жа, атрымаўшы грошы, пайшоў не ў гаспадарчы магазін, а ў гараж. Там ён узяў балончык з шэрай фарбай і апыліў белы дамафон. Дачакаўшыся, пакуль той добра прасохне, панёс жонцы.

Ядзя прыклала «новы» дамафон да сцяны, хвіліну ўглядалася, ці гарманіруе той з інтэр'ерам, і, нарэшце, выдала:

– Не падыходзіць! Ён жа губляецца на фоне шпалер, адразу і не намацаеш, асабліва ў цемры. Купляй новы! Хай будзе чорны. Такі нават сляпы заўважыць. Ды і выгляд будзе іншы, не такі задрыпаны.

Сямён працягнуў руку. Маўляў, зноў трэба даплаціць. Ядзя ўздыхнула і палезла ў кашалёк.

Тараскін і на гэты раз пайшоў не ў магазін, а ў гараж і перафарбаваў дамафон ужо ў чорны колер. Прынёс. Даў. Узяла. Стаіць. Маўчыць.

Ядзя прыклала «новы» дамафон да сцяны.

– Ну вось! Як тут і быў увесь час. Зусім іншая справа! А выгляд які шыкоўны, дарагі! Кажаш, апошні забраў? Які ж ты ў мяне спрытны, які малайчына!

**Раіса ДЗЕЙКУН,**
*г. Гомель.*



Пётр КОЗІЧ.



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

## Сам сабе рэжысёр

Як у час высокіх тэхналогій прадэманстраваць усім, што ты самы дужы і круты? Адзін з распаўсюджаных метадаў — зняць відэа. Гэта ж сапраўдны і неаспрэчны доказ, а калі яго яшчэ і загрузіць у інтэрнэт, дык увогуле можна стаць знакамітым.

Такое відэа зняў 22-гадовы магіляўчанін. Для дэманстрацыі сваёй моцы выбіраў людзей, якія былі слабейшыя і не маглі даць здачы. Хлопец чапляўся да незнаёмых у горадзе, абзываўся і запісваў гэта на смартфон. Пакуль выкрыта толькі два выпадкі злоснага хуліганства. Аднаго мужчыну магіляўчанін пабіў, другому надзеў на галаву вядро для смецця.

«Сам сабе рэжысёр» выпісаў сабе пуцёўку за краты. Цікава, як ён будзе паказваць сваю моц там?

## Новае амплуа

Ёсць такая папулярная тэлепраграма «Точь в точь», у якой зоркі эстрады, кінематографа робяць пародыі на знакамітых на ўвесь свет асоб.

Годную канкурэнцыю ўдзельнікам шоу магла б скласці адна зладзейка-магіляўчанка. За два гады ў сваім родным горадзе, Мінску і Слаўгарадзе падманным шляхам выцягнула з даверлівых грамадзян 780 тысяч рублёў.




Прадстаўляючыся начальнікам Мінскай рэгіянальнай мытні, намеснікам начальніка ДАІ і начальнікам іншых аддзелаў УУС Магілёўскага аблвыканкама, палкоўнікам міліцыі на высокапастаўленай пасадзе, яна пераконвала людзей, што мае доступ да нібыта канфіскаванай маёмасці, якую яна па сваіх паўнамоцтвах мае права прадаць.

Для пераканаўчасці зладзейка нават апранала форменнае абмундзіраванне супрацоўніка міліцыі і прызначала месца сустрэчы паблізу адміністрацыйных будынкаў органаў унутраных спраў. За здзелкі атрымлівала грошы як у валюце, так і ў беларускіх рублях і абяцала, што ў бліжэйшы час людзі атрымаюць набытую маёмасць, а перададзеныя ёй сродкі пойдуць у даход дзяржавы.

Зараз узбуджана крымінальная справа. Жанчына можа пераапрануцца ў турэмнае адзенне на тэрмін да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці. Хто ведае, можа, у яе атрымаецца раскрыць свой талент і ў новым амплуа...

## Паклапацілася пра сябе

26-гадовая мінчанка, спецыяліст па рабоце з фізічнымі асобамі аднаго са сталічных банкаў, вырашыла скарыстацца службовым становішчам. Яна афармляла ад імя кліентаў падробленыя дамовы на прадастаўленне розных крэдытаў. Пасля гэтага забірала выпушчаныя пластыкавыя карткі і траціла фінансы на свае патрэбы: арэнду аўтамабіля Infiniti FX35, парфумерыю, пагашэнне пазыкаў. А каб падманутыя людзі не хваляваліся, што ў іх знікаюць грошы, жанчына загадзя клапацілася пра іх нервовы стан і адключала ў спецыяльнай службовай праграме функцыю SMS-абвесткі аб зняцці грашовых сродкаў з крэдытных картак. Калі банк апавяшчаў кліентаў аб наяўнасці запазычанасці, тэлефанавала пацярпелым і паведамляла аб тым, што адбыліся збоі ў праграме.

Такім чынам, махінатарка паклапацілася... пра сябе і «зарабіла» 13 тысяч рублёў. Яе чакае суд, які і вынесе канчатковы вердыкт. І наўрад ці хтосьці будзе моцна клапаціцца пра яе ў гэты час.




Сяргей ВОЛКАЎ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ

# Па-суседску

*Гісторыйка*

Калі я гатавала абед, раптоўна пачуўся званок у дзверы. На парозе мяне чакала суседка Аўдоцця, уладальніца трох заўсёды сытых катоў і аднаго надакучлівага папугая.

— Прабачце, а ў вас лыжачкі цукру не знойдзецца? — спытала яна.

— Зараз пагляджу...

Я ўжо накіравалася на кухню, але Аўдоцця, хітра прыжмурыўшы вочы, паведаміла:

— А вы ведаеце, наш сусед Павел Лукіч учора ледзь руку не страціў!

— Як гэта здарылася?

— Пайшоў па пошту, а ключы ад скрыні ў кватэры пакінуў! Вырашыў указальным пальцам праз дзірачку падчапіць газетку, ды і захраснуў, ні туды ні сюды. Пакуль слесара чакалі, рука ледзь не адвалілася! Палец сіні быў, як слiва!

— Нішто сабе! — не паверыла я.

— А ўчора навіны не глядзелі?

Я адмоўна пакруціла галавой.

— Самае цікавае прапусцілі... — хмыкнула Аўдоцця. — Новы супермаркет у нашым раёне адкрылі! Дарэчы, што гэта за пах такі непрыемны?

— Мой абед! Згарэў! — схапілася я за галаву.

— А ў вас, бачу, пажарных апавяшчальнікаў няма, — паглядзела па баках Аўдоцця. — Непарадак. А калі б сапраўдны пажар здарыўся, гэта ж такія страшныя наступствы маглі быць! Бачу, вы спяшаецеся, дык і мне ісці трэба...

— А цукар? — успомніла я.

Аўдоцця махнула рукой:

— Лекары кажуць, цукар — белая смерць! Учора, дарэчы, па тэлевізары распавядалі, як адзін чалавек...

— Іншым разам раскажаце, добра?.. — не вытрымала я.

— А вось сёння надвор'е выдатнае! Мой лекар рэкамендуе болей гуляць на свежым паветры. Пайду, прайдуся да новай крамы. Куплю і хлеба, і каўбасы, і цукру! Бо каб цудоўна выглядаць, трэба добра есці, а салодкае — дорыць радасць... — прамармытала Аўдоцця і накіравалася на вуліцу.

— Чаго заходзіла, так і не зразумела. Дзіўныя ўсё ж у мяне суседзі, — зачыніўшы дзверы, услых сказала я і пайшла перарабляць абед.

*г. Гомель.*

## Мімаходзь

І да глыбінкі дакоціцца шчасце, калі фартуна зменіць колы на гусеніцы.

Нішто так не эканоміць час і грошы, як узаемнае каханне з першага погляду.

У сталовай не было сурвэтак, таму наведвальнікі выціралі рукі аб кнігу скаргаў.

Кідаюць камяні ў агарод? Пабудуй з іх дом!

Крочыў у нагу з часам, а мог абагнаць.

Тачыў лясы, а падтачыў аўтарытэт.

Не мог знайсці сваё месца ў жыцці, бо шукаў яго на п'едэсталах.

**Даслаў Віктар ЖЫБРЫК,**
*г. Дзяржынск.*



Алег ГУЦОЛ.




## Супакоіла

Дзве вясковыя кабеты прыехалі ў райцэнтр. На аўтавакзале адразу ж купілі білеты на зваротную дарогу. А потым пайшлі па сваіх справах, не прамінулі і базар.

Пакуль неслі свае торбы на вакзал, каб ехаць дадому, крыху спазніліся. Аўтобус ужо адышоў, толькі-толькі завярнуў за вугал вуліцы.

— Едзь-едзь, даражэнькі, — не ўстрымалася адна з кабет. — А білеты ж у нас!

## Аўтарытэтная заява

Старшыня калгаса добра пачаставаў сталічных гасцей — карэспандэнтаў газеты — і на развітанне гаворыць:

— Глядзіце ж, добра напішыце!

— А мы дрэнна пісаць не ўмеем, — пастукалі сябе ў грудзі захмялелыя госці.

## Каб заўважылі

— Вера, чаго гэта ты стала кульгаць?

— А як яшчэ звярнуць вашу ўвагу на мае новыя чаравічкі?!

## «Сапсавалася» бабуля

Дзед Мікіта абураецца:

— Гэта ж трэба: маю старую ўжо нічога не цікавіць — ні інтым, ні экскурсіі, ні госці. Ёй давай толькі бульбу палоць ды жукоў травіць!

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




Павел ГАРАДЦОЎ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.




# Міколу ПАДАБЕДУ — 80!

## Агнём сатыры і гумару

*Мікалай Іванавіч ПАДАБЕД — вядомы гумарыст, пісьменнік, шчыры вожыкавец, які «агнём сатыры і гумару» змагаецца з падхалімамі і хабарнікамі, бюракратамі і прахіндзеямі ўсіх масцей.*

*Больш за трыццаць гадоў узначальваў бялыніцкую раённую газету «Зара над Друццю». Але знаходзіў хвіліны і для смеху — друкаваўся ў «Вожыку», у шэрагу рэспубліканскіх часопісаў і газет, калектыўных зборніках. Выдаў чатыры кнігі гумару. Лаўрэат рэспубліканскага літаратурнага конкурсу ў намінацыі «Сатыра і гумар», узнагароджаны дыпломам Саюза пісьменнікаў Беларусі за кніжку «Мільён за ўсмешку».*

*Часопіс «Вожык» віншуе свайго даўняга сябра Мікалая Іванавіча з юбілеем і зыча яму моцнага здароўя, творчага плёну і добрага настрою!*



Сяброўскі шарж
Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

### Мікола ПАДАБЕД

### Суботнік

*Гумарэска*

Старшыня прафсаюзнага камітэта Мікіта Бурак акінуў вачыма прысутных, якія сабраліся ў зале, і прагундосіў:

— Шаноўныя спадары! Заўтра мы, як шэфы, паедзем на суботнік, каб дапамагчы мясцовай гаспадарцы. Усе як адзін. Ніякіх адгаворак не прымаю. Ясна? А цяпер запісвайцеся. Ці ёсць ахвотныя?

Павісла напружаная паўза.

— А ты, Мікіта Антонавіч, пакажы прыклад, — хіхікнуў нехта з задняга раду.

— Я і рады ў рай, ды грахі не пускаюць. Кі-кі-кі... А дакладней, грыжа не дазваляе, — пачаў заікацца прафсаюзны лідар.

— Хм, грыжа... Знайшоў хваробу! З ёю можна сто гадоў пражыць. І як яна ў цябе з’явілася? Грузчыкам не працуеш, а пуп надарваў, — запыталася ў Бурака галоўны бухгалтар Галіна Лісічка.

— Сілы не разлічыў, — пачаў апраўдвацца Мікіта Антонавіч. — Жонка мая пудоў пяць з гакам. Аднойчы цапнуў яе — хацеў паваліць — і ад болю ажно прысеў... Вось і нажыў «цацку». Больш пытанняў прашу не задаваць. Ясна?

Бурак стрэліў калючым позіркам у расфуфыраную сакратарку з прыёмнай караўніка фірмы і прабасіў:

— А ты, Люда, паедзеш на суботнік?

— Ды вы што? Знайшлі дурніцу, — запярэчыла дзяўчына. — Не магу я...

— Няўжо і ў цябе грыжа?

— Не-е-е... Цяжарная я.

— Цяжарная? Ты ж не замужам.

— Ну і што. Я ж прыгажуня, каралева. Хаджу направа і налева.

— Даляталася птушачка! І даўно зацяжарыла?

— Даўно. Шосты дзень.

— Опанькі! Мо, шосты месяц? Не цямні!

— Вы мне мазгі не калупайце! Калі не верыце, то спытайце ў майго кавалера.

— А ў якога? У цябе іх, як летам камароў у балоце. Чаго маўчыш? Ну!

— Аглоблі гну! — агрызнулася «каралева».

Пасля некаторай паўзы старшыня прафсаюзнага камітэта хітравата зірнуў на вартаўніка Міхася Блуднага:

— А цябе, браток, запісаць на суботнік?

— Не трэба, Мікіта Антонавіч. Я ў наступны раз паеду.

— У наступны? А цяпер што? Мо квасіў усю ноч. І галава трашчыць.

— Ды не. Цешча выцiснула сельскага «каньячку». Хачу прадэгуставаць. А калі спадабаецца, вам пару пляшак прывязу.

— Во-во-во!.. Добранька, заставайся, — памякчэў Бурак. — Шкада, канешне. Але займайся сваёй справай. Толькі не забудзь пра гасцінец. Ясна?

— Угу!

— Так-так-так, — забарабаніў пальцамі па стале старшыня прафсаюзнага камітэта. — Ну і сітуацыя! А што нам скажа галоўны электрык Арцём Бачонак?

— Мікіта Антонавіч, які з мяне работнік? — адказаў той пытаннем на пытанне. — Пуза ў мяне, як тры гарбузы — пад нагамі нічога не бачу. І сагнуцца не магу. Нават жонка шкарпэткі надзяе. Праўда, умею юшку гатаваць. Ды такую — пальчыкі абліжыце.

— Юшку гатаваць? Добра. А хто ж на суботніку працаваць будзе?

— Усе. Толькі не я.

— Не-не, ты будзеш у мяне заўтра ўкалваць, як вол. І станеш стройны, гнуткі, як спартсмен, шустры, як вавёрачка...

— Э, не! Лепш няхай расце жывот ад піва, чым горб ад працы, — прабурчэў Бачонак. — І чаго вы да мяне прычапіліся? Не чапайце ліха, пакуль яно ціха!..

У гэты момант у залу заглянуў генеральны дырэктар фірмы Сцяпан Бізун і звярнуўся да Бурака:

— Як справы, Мікіта Антонавіч?

— Добра! Усе пагадзіліся ехаць на суботнік — ніхто не адмовіўся, — схітрыў той.

— Гэта так? — звярнуўся Бізун да прысутных.

Усе дружна заківалі галовамі.

— Вось і слаўна! Тады заўтра сустрэнемся на суботніку, — Сцяпан Маркавіч шырока ўсміхнуўся і падаўся да дзвярэй.



**Андрэй ПЯТРЭНКА**

# Крама «Натхненне»

*Фантасмагорыя*

У пісьменніка Семачкіна знікла натхненне. Ішоў час, а вялізны стос сапсаванай паперы толькі рос у памерах. Стомлены і расчараваны аўтар доўга разважаў, куды магла знікнуць ягоная муза...

І раптам апынуўся ў краме «Натхненне»...

— Цікава, чым тут могуць гандляваць? — здзівіўся пісьменнік і агледзеўся.

— Тым, што напісана на шыльдзе, — з'явіўся невядома адкуль прадавец-кансультант.

Семачкін прысвіснуў:

— Няўжо можна набыць эліксір, які трымае ў прыўзнятым творчым стане? Мне б паглядзець.

Яго правялі ў залу, сталі распавядаць і паказваць:

— Гэта бутэлечка для напісання гумарыстычных апавяданняў, а гэта — для сур'ёзных твораў. Далей ідуць больш дарагія эліксіры — прымаеце, і за вечар пішаце аповесць. Самыя каштоўныя адвары натхняюць на раманы.

— А попыт на такія тавары ёсць? — пацікавіўся Семачкін.

— Купляюць добра, — адказаў прадавец. — Кожны дзень завоз. Цяпер пісьменнікі лянуюцца. Набудуць бутэлечку, ручку, якая сама запісвае ўсе іх думкі, і займаюцца сабе хатнімі справамі.

У Семачкіна была мара: напісаць нешта грандыёзнае, ніяк не горшае па вартасці за «Ціхі Дон» ці «Вайну і мір». Таму ён вырашыў купіць самыя дарагія чароўныя зёлкі, а таксама самапісную ручку.

Расплаціўшыся, Семачкін выйшаў з крамы і накіраваўся дадому. Там ён прыняў чароўны эліксір і пачаў чакаць, калі той пачне дзейнічаць.

Праз некалькі хвілін мужчына адчуў небывалы прыліў сіл. У гэты момант на паперы з'явіўся першы сказ. Затым другі, трэці. А праз некалькі гадзін ужо цэлая кніга была напісана. Задаволены Семачкін пачаў збірацца ў рэдакцыю.

І тут... зазвінеў будзільнік.

Семачкін прачнуўся.

— Дык гэта ўсяго толькі быў сон, — расчаравана прамовіў ён. — Эх, няма ў гэтым жыцці чарадзейства. Каб сапраўды ў мяне мелася такая мікстура і ручка, дык я б ураз пераплюнуў і Шолахава, і Талстога. А так сядзі за пустым лістом і чакай, калі прыйдзе гэта муза! Галаву ламай і крэслі напісаныя радкі.

Семачкін яшчэ некаторы час пахадзіў па кватэры, паабураўся цяжкай доляй пісьменніка. Потым усё ж такі сеў за стол, узяў самую звычайную ручку, выпіў глыток самай звычайнай кавы, уздыхнуў, напісаў першы сказ і ўсміхнуўся. Натхненне проста так не купіш, яно заўсёды само выбірае, да каго і калі прыходзіць.

*г. Рэчыца.*

**Святлана БЫКАВА**

# ПАКУТЫ ТВОРЧАСЦІ

З цёплымі промнямі першымі
Душа пачала плакаць вершамі.
Ходзячы ўдзень па кватэры,
Стос змарнавала паперы.
І надвячоркам, і ноччу
Крэмзала ў цемры радочкі —
Муза шаптала да ранку...
Вось ужо час і снеданку.
З голаду — кругам галоўка...
Ў шафу — паперу, алоўкі!

Кухня. Вару сабе жвава
Кубак духмянае кавы.
Печыва, лустачкі хлеба —
Усё, што для снедання трэба.
Ем сабе ціха ў куточку...
Чую: ляцяць зноў радочкі!

Новыя вершы? Цікава!
Стыне забытая кава,
Бегаю зноў па кватэры
У пошуках чыстай паперы...
Нейкім алоўкам-агрызкам
Вершаў запісваю нізку.

*г. Заслаўе.*




Малады пісьменнік Гоша Каўрыгін напісаў кнігу. Выпусціў яе стотысячным тыражом. Глядзіць — ніхто не купляе. Вырашыў даць аб'яву ў газету: «Малады сімпатычны мільянер жадаў бы пазнаёміцца з дзяўчынай, падобнай на гераіню кнігі Г. Каўрыгіна». На наступны дзень увесь тыраж быў раскуплены.




**Міхаіл УЛАСЕНКА**

Імкнуўся жыць не горш за пана,
Ды капіталу не хапала.
Вядома, беднасць — не загана,
Але ж і гонару ў ёй мала.

* * *

Нішто — твой розум, эрудыцыя,
Твой вопыт, спецыялізацыя...
Жыццё ёсць толькі рэпетыцыя,
Прытым заўжды — імправізацыя.

* * *

Каму мір, каму фронт —
Ідэал свой у кожнага маецца.
Мой кумір — гарызонт:
Ты ідзеш, але ён аддаляецца.

* * *

Мяне, прызнацца, цяжка чым здзівіць,
З сядла пакуль чыноўнікі не выбілі.
Ды як цяпер душой не пакрывіць,
Калі цябе сагнулі ў тры пагібелі?

* * *

Не лезу, дзе кіпяць дэбаты,
Хаця яшчэ хапае пораху,
Бо не такі я ўжо багаты,
Каб нажываць пад старасць ворагаў.

* * *

Кароўку ладную, удой каб прыбаўляла,
Не корміць хваткі фермер да адвалу.
Але шкадуе ён сваю асобу,
Даверху набіваючы вантробу.

* * *

На жанчын глядзеў я строга,
Бо нярэдка так бывала,
Што на іх румянаў многа,
А адзення — дык замала.

* * *

Учарашнія прысмакі,
Недаедзены абед...
Ролю хатняга сабакі
Я выконваю, як след.

*г. Горкі.*



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

## Анекдоты

— Моня, чаму Сарачка на цябе злуецца?

— Ды ўчора прынёс ёй сукенку. Яна кажа: «Дурань, такое ніхто не носіць».

— Ну і што?

— Сёння прынёс другую, дык яна кажа: «Дурань, гэта ж носяць усе!».

* * *

Два яўрэі заходзяць у кафэ, заказваюць напоі і дастаюць бутэрброды.

— Прабачце, — кажа бармэн, — але ў нас нельга есці сваю ежу.

Яўрэі пераглядаюцца, паціскаюць плячыма і мяняюцца сваімі бутэрбродамі...

* * *

— Моня, тэрмінова паабяцай, што ты ажэнішся з нашай Цылечкай!

— Сямён Маркавіч, паабяцаць магу! Але ажаніцца не абяцаю!

* * *

Урок рускай мовы ў адэскай школе. Настаўнік:

— Сёння мы вывучаем ступені параўнання прыметнікаў. Каб было зразумела, я адразу прывяду прыклады. Возьмем слова «Добры». Вышэйшая ступень — «лепшы», найвышэйшая ступень — «самы добры», і ступень, якая ні з чым не параўнаецца, — «каб я так жыў!» Зразумелі? Тады, Моня, вазьмі слова «дрэнны» і зрабі з ім тое ж самае!

— Горшы.

— Выдатна! Давай найвышэйшую ступень.

— Вельмі дрэнны.

— Цудоўна! Ну, а апошняя ступень?

— Каб Вы так жылі!

**Сабраў**
**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*




## Улас ДАРАШЭВІЧ (1865—1922)

*Знаёмцеся з сённяшнім героем рубрыкі: Улас Міхайлавіч Дарашэвіч – рускі журналіст, публіцыст, тэатральны крытык, адзін з вядомых фельетаністаў канца XIX – пачатку XX стагоддзя. Адукацыю атрымаў у некалькіх маскоўскіх гімназіях, адкуль неаднаразова выключаўся за дрэнныя паводзіны і непавагу да начальства. Але ў выніку гімназічны курс скончыў экстэрнам.*

*Прафесію журналіста пачаў асвойваць яшчэ будучы вучнем. Працаваў рэпарцёрам «Московского листка», «Петербургской газеты», пісаў гумарыстычныя нататкі ў «Будильник». Сапраўдная вядомасць прыйшла да Дарашэвіча падчас працы ў 1890-х гадах у адэскіх газетах.*

*Ахвотна знаёмім вас, паважаныя чытачы, з цудоўным творам фельетаніста!*



**Улас ДАРАШЭВІЧ**

# Адэская мова

Прыступаючы да лекцыі пра адэскую мову, гэтае восьмае цуда свету, мы перш за ўсё павінны вызначыць, што такое мова.

«Мова дадзена чалавеку, каб гаварыць глупствы», — сцвярджаюць філосафы.

Мы не ведаем, як была створана адэская мова, але ў ёй вы знойдзеце па кавалачку любой мовы. Гэта нават не мова, гэта вінегрэт з мовы.

Паўночнікі, калі прыязджаюць у Адэсу, сцвярджаюць, быццам адэсіты кажуць на нейкай «кітайскай мове». Гэта не зусім дакладна. Адэсіты кажуць хутчэй на «кітайска-японскай мове».

Тут чаго хочаш, таго і спытаеш.

І мы дзівімся, як ні адзін прадпрымальны выдавец не выпусціў да гэтага часу ў свет «дапаможнік адэскай мовы» на карысць прыезджым.

— Раю вам пазнаёміцца з месье Ігрэкам: ён заўсёды гатовы заняць грошай!

— Дазвольце, ну што ж тут добрага? Чалавек, які займае грошы!

— Як! Чалавек, які займае грошы, такі мілы, ласкавы!

— Не бачу ў гэтым ні мілага, ні ласкавага.

— Гэта такі шаноўны чалавек. Яго за гэта любіць і паважае ўвесь горад.

Але пры першай жа спробе «заняць» — вы зразумееце памылку. У Адэсе «заняць» значыць даць пазыку.

— Я заняў яму сто рублёў.

* * *

— Месье не сумуе за тэатрам?

— Навошта ж я павінен сумаваць за тэатрам? Я сумую дома.

Вы здзіўлены, бо за тэатрам у Адэсе знаходзіцца Паўночная гасцініца, дзе зусім не сумуюць.

На адэскім валапюку* сумуюць абавязкова «за чым-небудзь».

Публіка сумуе «за тэатрам», прадаўцы «за пакупніком», жонкі «за мужамі».

* * *

Адэская мова не прызнае ні скланенняў, ні спражэнняў, ні дапасаванняў — нічога!

Гэта мова сапраўдных балбатуноў — мова свабодная, як вецер.

О, добрыя немцы, якія прынеслі ў Адэсу сакрэт прыгатавання выдатных каўбас і дзеясловў «мець».

— Я маю шпацыраваць.

— Я маю есці.

У Адэсе ўсё «маюць», акрамя грошай.

Калі ў вас пытаюцца:

— З чым месье хоча гарбату: з вяршкамі ці з лімонам?

Вы павінны адказаць:

— Без анічога.

Вы павінны гаварыць «тудою» і «сюдою», каб з вас не смяяліся, калі скажаце «туды» і «сюды».

Такая адэская мова, нашпігаваная мовамі ўсяго свету, прыгатаваная па-грэчаску, з польскай падліўкай.

І адэсіты пры ўсім гэтым запэўніваюць, быццам яны кажуць «па-руску».

Нідзе так не хлусяць, як у Адэсе!

*1895 г.*

*Валапюк — штучная мова.

**Міхась СЛІВА**

## Узнагароджанне

*Іранеска*

У разгар рабочага дня ў кабінеце Ігара Пятровіча, намесніка дырэктара ўстановы, пачуўся тэлефонны званок.

– Добры дзень! Турбуе Галубіцкая. Скажыце, калі ласка, а дзе ваш дырэктар? – уладным голасам спытала намеснік старшыні райвыканкама, якая курыравала пытанні сацыяльнай сферы жыцця ў раёне.

– Я пазнаў вас, Вольга Піліпаўна, пазнаў! Артур Антонавіч паехаў на раён, будзе позна, – як школьнік, адрапартаваў Ігар Пятровіч, хоць добра ведаў, што шэф у гэты час разам з двума сваімі падначаленымі займаецца будаўніцтвам лазні на дачы.

– У такім выпадку даручаю справу вам, – скамандавала Вольга Піліпаўна. – Тэрмінова падрыхтуйце неабходныя матэрыялы на ўзнагароджанне вашага спецыяліста Івана Міхайлавіча Ключнікава і да канца дня прадастаўце нам!

Ігар Пятровіч хутка сабраў патрэбныя паперы, а Ключнікаў даставіў іх у райвыканкам.

У панядзелак Артур Антонавіч з'явіўся на рабоце пасля апаратыўнай нарады ў райвыканкаме. І тут жа выклікаў да сябе намесніка.

З кабінета дырэктара Ігар Пятровіч выйшаў узрушаны і задуменны. Заглянуў у кабінет Ключнікава і паскардзіўся:

– Шэф зусім азвярэў. Крычыць, чаму без яго ведама аддалі матэрыялы на ваша ўзнагароджанне.

– Не хвалюйся, зараз выправім становішча! – хітра ўсміхнуўся Іван Міхайлавіч і рашуча накіраваўся ў кабінет дырэктара.

– Дзякуй вам, Артур Антонавіч, за дапамогу і падтрымку! Калі б не вы, то не ведаю, што было б... – урачыста прамовіў Ключнікаў.

Шэф спачатку разгубіўся, падумаў, што Іван Міхайлавіч іранізуе. Але потым узяў сябе ў рукі і марудна, з цяжкасцю падбіраючы словы, стаў гаварыць:

– Гэта ж яшчэ месяц таму ў райвыканкаме зайшла размова пра тое, што рыхтуецца чарговая цырымонія ўзнагароджання перадавікоў народнай гаспадаркі. Дык я хуценька напісаў паперу на цябе і адвёз.

– Яшчэ раз дзякуй вам, Артур Антонавіч! – весела ўсклікнуў Іван Міхайлавіч і паімчаў назад да намесніка дырэктара.

– Ну, можаш спаць спакойна! Шэф сказаў мне, што сам тады падрыхтаваў патрэбныя паперы і адвёз у райвыканкам. А ён жа, як ведаеш, кожны раз падкрэслівае, што ніколі не хлусіць! – расказваў і смяяўся Іван Міхайлавіч.

– Што б мы ўсе без яго рабілі! – рагочучы, адказаў на гэта Ігар Пятровіч.

*г. Рагачоў.*




Сяргей ВОЛКАЎ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

# Вясёлыя вершы, або Песні без нот

### Мінскія прыгажуні

Плывуць па вуліцах няшпарка
І па праспектах гарадскіх.
Схавацца не магу і ў парку
Ад іх, спакуслівых такіх.

Красою іх зачараваны,
За позірк ветлы ўсё аддам.
Што ж ажаніўся я так рана?
Таго не ведаю і сам.

Аж млею ад спаднічак-міні,
Што выйшлі — нібы на парад.
Я б жонку мог яшчэ пакінуць,
Ды... не вярнуць гады назад.

### Як палюбіць малады…

Як палюбіць малады,
Дзе й падзенуцца гады.
Маладога палюбіць —
Хутка ночка праляціць.

Я ў люстэрка пагляджу,
Твар крыху падмаладжу.
Падмалодзіцца мой твар —
Іншым стане і тавар.

З маладым гатова быць,
Пакуль будзе ён любіць.
На любы рашуся грэх,
Толькі б любы мой не збег.

*г. Мінск.*

### Паэту-таўкачу

Ён залічыў сябе ў паэты
І пад пяром не бачыць брак:
У вершах — снег срабрыцца летам,
Зімою свішча ў садзе шпак...
Сябруе з ямбам для забавы,
Для роднай мовы ён — як заяць.
Пачаў паэт з мясцовай славай
Падборкі вершаў выдаваць.
Як маладым быў партакратам,
Не мог знайсці лірычных слоў.
Пад старасць вершыкі-зярняты
Таўчэ ў раёнцы пра любоў.
Хачу паэту сёння першым
Пытанне вострае задаць:
Калі пачне зярняты-вершы
Ад словасмецця ачышчаць?

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*



### «Адно акно»

Хваліўся бюракрат: «У нас адно акно!»
Ён мае рацыю, на погляд першы,
Але ж бывае так: акно адно,
Затое шмат дзвярэй. Іх у далейшым
Спатрэбіцца са стукам адчыніць,
Каб сваю справу ўсё ж такі зрабіць.
Не выправіў чыноўнік гэтай хібы,
Парадак зараз той, што быў даўно:
Праз дзверы яго гоніш — стане дыбам,
А то назад імкнецца праз акно,
Праз тое, што ім створана, — адно.

**Уладзімір ГРЫШЧАНКА,**
*г. Гомель.*




Мікола ПІРГЕЛЬ.




**Андрэй СІДАРЭЙКА**




# Чыя бульба смачнейшая?

*Гумарэска*

У студэнцкім інтэрнаце самае папулярнае месца — кухня. Яшчэ на занятках моладзь пачынае думаць пра тое, як мага хутчэй заняць на кухні свабодную канфорку. Бо калі не паспееш першым — прастаіш не адну гадзіну ў чарзе. А то і галодным спаць пойдзеш. Але, паставіўшы на пліту рондаль або патэльню, трэба здзейсніць яшчэ адзін гераічны ўчынак: прыгатаваць вячэру без страт. Бо вакол шмат тых, хто гатовы паласавацца задарма.

...У інтэрнаце N аматарам паквапіцца на чужы паёк быў Сашка. Заходзячы як бы незнарок на кухню і бачачы там знаёмага, ён усклікваў:

— Вой, а што тут у цябе? Макароны? Гэта ж мая любімая ежа! Дай паспытаць.

Далей Сашка лыжкай даставаў з рондаля макароны і, незалежна ад іх гатоўнасці, праглынаў. Спыняўся толькі тады, калі добрая частка была ў страўніку.

У Сашкі была і свая вячэра. Праўда, яе ён пакідаў на позні час. Хітрун уплётваў ежу за абедзве шчакі перад сном, калі на кухні амаль нікога не было.

Але такая «халява» скончылася, калі аднойчы Сашка паставіў на канфорку патэльню з бульбай, а сам пайшоў шукаць перакусу ў суседзяў. У гэты час яго таварышы Дзяніс і Ягор непрыкметна зайшлі на кухню і перасыпалі Сашкаву бульбу ў сваю патэльню. А затым адправіліся з ёю да сябе. Туды праз хвілін дзесяць і зайшоў наш герой:

— Што тут у вас? Бульбачка? Дайце паспрабаваць.

Дзеля выгляду хлопцы трохі ўпіраліся, але хутка здаліся.

— О, як смачна! Я, дарэчы, такія ж прыправы дадаю, — нахвальваў Сашка вячэру.

— Дык ты не саромейся, частуйся. Мы сёння не вельмі галодныя, — падміргваючы адзін аднаму, прапаноўвалі сябры.

А той і рады. Спыніўся толькі тады, калі ў патэльні засталося той бульбы, як кот наплакаў.

— Якая сёння добрая вячэра ў вас будзе, хлопцы! — задаволена зазначыў Сашка і знік.

Ён быў здзіўлены, калі на сваёй кухні ўбачыў толькі злёгку нагрэтую пустую патэльню. А хлопцы былі тут як тут! Рагочучы, яны спыталі:

— Ну, як? Смачная была бульбачка?

— За ўсё жыццё ў інтэрнаце — самая лепшая! — упэўнена адказаў Сашка.

З той пары ён больш не частаваўся ежай сваіх таварышаў, а як і астатнія, імчаўся пасля заняткаў у інтэрнат, каб заняць чаргу да пліты.

*Рэчыцкі раён,*
*в. Караваціцы.*






Андрэй СЛУЦКІ.

# Анекдоты

Прафесар назірае, як студэнт старанна лічыць грошы, раз-пораз аблізваючы пальцы. Нарэшце, не вытрымаўшы, заўважае:

— Шаноўны спадар студэнт! Гэта ж негігіенічна. Ці ведаеце, колькі небяспечных мікробаў можа знаходзіцца на гэтых грошах?

— Мікробаў? Ды на такую стыпендыю нават мікроб не выжыве!

* * *

Дзяўчына — студэнту:

— Калі ты быў яшчэ на першым курсе, то казаў: «Увесь мой свет — гэта ты». А зараз...

— А зараз, дарагая, мае геаграфічныя веды значна пашырыліся!

* * *

Недзе пасля дванаццаці ночы на вуліцы спаткаліся двое студэнтаў:

— Ты куды так позна?

— У інтэрнат.

— Так рана?!

* * *

На занятках па ваеннай справе студэнты ў поўнай выкладцы рухаюцца да «штурму» паласы перашкод. Імі камандуе адстаўнік.

— Эх, быць альбо не быць! — усклікнуў адзін са студэнтаў, кідаючыся на чарговую перашкоду.

— Хто гэта сказаў? — крыкнуў наўздагон ваенны выкладчык.

— Шэкспір! — хорам адказалі студэнты.







Павел ГАРАДЦОЎ.

— Радавы Шэкспір, адставіць бег! — скамандаваў выкладчык.

* * *

Двое студэнтаў размаўляюць пасля заняткаў:

— Ну і лекцыя сухая была! — кажа першы.

— Так, і праўда, — згаджаецца другі. — І гэта нягледзячы на такую вялікую колькасць крыніц!

* * *

— Экзамен — гэта як тэатр, — кажа прафесар, — вы — акцёр, а я — глядач.

— Добра, — кажа студэнт, — трэба толькі запрасіць суфлёра.

**Сабраў Леў КАЗЛОЎ,**
*г. Мінск.*






Павел ГАРАДЦОЎ.

**Леся УКРАІНКА**

# Тры матылькі

*Казка*

Жылі-былі тры матылькі: адзін белы, другі чырвоны, а трэці жоўты. Яны весела пырхалі цэлы дзень у вялікім садзе, у сонечным святле, пераляталі з кветкі на кветку, каштавалі мядок і ляцелі далей.

Час для іх імчаў вельмі хутка. Яны так загуляліся, што і не заўважылі, як сонейка схавалася за хмары і пайшоў дождж.

Намоклі матылькі. Паляцелі да сваёй хаткі, ды там – бяда: дзверы замкнёныя, а ключа нідзе не знайсці.

Што тут рабіць? За той час, пакуль стаялі перад дзвярыма ды не ведалі, як быць, намоклі страшэнна. Ледзьве ўжо крыльцамі варушылі. Насілу даляцелі да цюльпана, чырвонага, з жоўтымі крапінкамі. Папрасілі ў яго дапамогі:

– Мілы цюльпанчык, просім цябе, адчыні свой келіх ды схавай ад дажджу!

Цюльпан паглядзеў на іх і прамовіў:

– Жоўтага і чырвонага прыму, а белы няхай застаецца на дварэ.

Але абодва матылькі, жоўты і чырвоны, прамовілі:

– Калі ты не хочаш абараніць нашага брацiка, белага матылька, то і мы лепш на дажджы будзем мокнуць.

Сумныя матылькі паляцелі да белай лілеі. Папрасілі і яе, каб схавала іх ад дажджу, але яна згаджалася прыняць толькі белага. Тады ён прамовіў:

– Адзін хавацца ў цябе не хачу! Або ўжо разам з братамі дзе-небудзь знойдзем схованку, або разам будзем пакутаваць.

Пачула гэта з-за хмар сонейка, і захацелася яму пабачыць тых сяброў, што адзін аднаго адстойвалі. Выглянула праз хмары і кінула на матылькоў свае промні. Адразу крыльцы іхнія высахлі, і самі яны сагрэліся. І зноў лядалі, скакалі і радаваліся, як раней, ажно да самага вечара. А як сонейка зайшло за гару, матылькі паляцелі дадому спаць.

**Пераклад з украінскай**
**Міхася СЛІВЫ,**
*г. Рагачоў.*

# Загадкі

## Вольга ЛАБАЖЭВІЧ

Далікатны белы шар
Паглядае на абшар.
Ды калі павее ветрык,
То не знойдзе яго Петрык.

*(Дзьмухавец.)*

* * *

Дзе лясны ручай бяжыць,
Куст успыхнуў і гарыць.
Не палохайся, Аліна:
Гэта спелая...

*(Каліна.)*

* * *

Над вадой схілілася,
Быццам засмуцілася.
Хоць ніхто таго не бачыў,
Ды сцвярджаюць: яна плача.

*(Ніцая вярба.)*

* * *

Пах прыемны льецца з дрэў,
Пад адным з іх Коля сеў.
Аглядаецца наўкола:
«Скуль тут узяліся пчолы»?
Хлопчыку дапамажы,
Што за дрэва, адкажы.

*(Ліпа.)*

* * *

Знаць карціць малой Галінцы,
Што за «цацкі» на ялінцы.
І дзяўчынка плача горка:
– Растлумач хутчэй, Ягорка!
Той плячыма паціскае,
Бо адказу ён не знае.
Не сакрэт толькі для Мішкі:
На ялінцы растуць...

*(Шышкі.)*

* * *

Схіліла косы над вадою,
Нібы пазналася з бядою.
Не пазналі вы хіба?
Гэта ж ніцая...

*(Вярба.)*

* * *

Прыгажуня для красы
Накруціла валасы.
Ёй цырульнік не патрэбен,
Неабходна толькі глеба.
Яна з градкі акурат
Трапіць можа у салат.
Прашапчыце мне на вушка,
Як завуць яе?

*(Пятрушка.)*

*г. Клецк.*




Аляксандр ПЯТРОЎ.




*Іранеска*




А пошнім часам пачала адчуваць у сабе нейкую магічную сілу. Як толькі агучу сваю мару ўслых, яна адразу здзяйсняецца. Шкада толькі, ёсць адна папраўка: жаданне спаўняецца, але не маё...

Напярэдадні 23 лютага мне выдалі не толькі зарплату, але загадзя і прэмію да жаночага свята. Сума атрымалася прыемная, таму я вырашыла сябе пацешыць.

– Пайду пасля працы па абноўкі, куплю ніжнюю бялізну ды кофтачку, – апавясціла я сваю кіраўніцу Веру Пятроўну, калі ўчыталася ў атрыманую разліковую паперку. – Даўно іх нагледзела ў цэнтральным універмазе.

– Вось і малайчына, – пахваліла мяне начальніца, здымаючы трубку тэлефона. — Гэта цябе.

На лініі быў мой муж. Ён так гучна і ўзбуджана казаў, што Вера Пятроўна чула ўсю нашу размову.

– Дарагая, я нарэшце вызначыўся з падарункам да 23 лютага! А каб не дужа цябе нагружаць, замовіў яго ў інтэрнэт-краме з дастаўкай на дом. Увечары разлічышся з кур'ерам. Праўда, я ў цябе малайчына?

– А які падарунак? – пазіраючы на міраж кофтачкі, запыталася я.

— Сёння збудзецца мая даўняя мара – выдатны аўтамабільны пыласос!..

Я паклала тэлефонную трубку і моўчкі ўявіла, як вялізны пыласос, услед за кофтачкай, засмоктваў і новую бялізну.

Вывеў мяне з задуменнасці спачувальны голас Веры Пятроўны:

– Не хвалюйся! Як толькі наша кантора пабагацее, я абавязкова арганізую табе камандзіроўку ў Каралеўства Свазіленд, што ў Паўднёвай Афрыцы. Мне казалі, там дастаткова мець толькі каралікі на шыі, і ты ўжо сапраўдная прыгажуня...

**Наталля ШАСТАКОВА,**
*г. Гомель.*

## Сад нявесціцца

Мой сад нявесціцца вясною,
Нібы ў фаце, прыціх...
Між белых яблынь раніцою
Хаджу я, як жаніх.

Гляджу на алычу з агрэстам,
Пяе нам салавей...
Між дрэў шукаю – дзе нявеста
За іншых саладзей?

Пакуль усе яны прывабны,
Як і сама вясна.
Ды помню я, што смак сапраўдны
Пазнаецца пасля.

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*




Сяргей ВОЛКАЎ
і Міхал ШУЛЬГА.

# Гаспадар

*Байка*

Аднойчы дзесьці Заяц так напіўся,
Што ледзьве ноччу у нару
ўваліўся.
Падняў ён гвалт, стаў на сям'ю
крычаць:
– Хто гаспадар тут? Трэба
паважаць
Мяне і не пярэчыць аніколі!
Касы дарма даў
п'яным думкам волю.
Цягнуўся «бенефіс» да той пары,
Пакуль Зайчыха, дужая даволі,
Не выкінула мужа вон з нары.
Бялявы пабурчэў, паабураўся,
Ды потым ля нары ўсё ж спаць
пакла́ўся.

Світанкам Вожык крочыў
з палявання,
Убачыў Зайца, разбудзіў
пытаннем:
– Навошта лёг ты проста
на зямлю?
Той сцяміў і адказ даў
з выхваляннем:
– Я – гаспадар, і дзе хачу,
там сплю!

* * *

Страчаліся нярэдка і мы з вамі
З такімі, як Касы, гаспадарамі.

**Уладзімір ГРЫШЧАНКА,**
*г. Гомель.*

## Яўген ШАСТАКОЎ

### Распродаж

*З натуры*

У суботнім нумары мясцовай газеты мне выпадкова трапіла на вочы рэкламная аб'ява аб распродажы мужчынскага абутку. У першую чаргу я заўважыў вялізныя лічбы «9» і «0», якія і прымусілі мяне адразу ж прачытаць яе. Там было напісана: «Толькі сёння ў нашай краме – скідка 90% на ўвесь мужчынскі абутак!» Далей ішоў адрас і час працы.

Ад маёй кватэры гэта далёка – на другім канцы горада. Але такі выпадак! Ды і абутак якраз патрэбны. З такой скідкай і ў запас можна купіць – есці ж прасіць не будзе...

Праз паўгадзіны я ўжо ехаў у аўтобусе і меркаваў, што змагу купіць на зберажоныя грошы. Дабіраўся з перасадкай – прамога аўтобуса туды не было.

Хуткім крокам, амаль подбегам, я кінуўся да крамы. Ірвануў ручку дзвярэй, ускочыў унутр і... застыў у нерухомасці. Невялікі пакой быў пусты. На стэлажах не было ніякага абутку. На стале, каля ўвахода, знаходзіўся толькі касавы апарат, за якім сядзела дзяўчына і смачна пазяхала.

– Гэта абутковая крама? – звярнуўся я да яе. – А дзе ж абутак, на які аб'яўлена скідка? Я змарнаваў паўдня, каб прыехаць сюды, а тут...

– Мы пераязджаем, – ленавата прамовіла касірша, – а ўвесь пераацэнены абутак – вось.

На адной з паліц за спінай дзяўчыны сіратліва стаялі тры пары чаравікаў. Але якія велізарныя памеры! Дзе знайсці такога Гулівера, якому не спатрэбіцца прывязваць іх да ног вяроўкай, каб не згубіць.

Едучы дамоў, я спачатку злаваўся на сябе за змарнаваны час, але хутка супакоіўся – грошы засталіся, а стары абутак мне яшчэ паслужыць.

– Паслужыце? – запытаў я і паглядзеў на ногі. Боты адказалі мне ўсмешкай адклееных падэшваў.

*г. Гомель.*

# Не збочыў

Ледзьве сонца засвяціла –
Ўжо кіпіць работа.
Слуп брыгада ўстанавіла
З электрычным дротам.

Ды чамусь пасярод сцежкі,
Трэба ўсім абходзіць.
«Перастаўце, галавешкі!» –
Дзед майстрам даводзіць.

«Нельга, нельга, план у нас, –
Мужыкі рагочуць. –
Слуп разумны, ён для вас,
Калі трэба, збочыць».

Між тым час і на абед –
Ён пайшоў удала,
Бо для хлопцаў, бачыць дзед,
Паўлітроўкі мала.

І бяжыць адзін, як лось,
Па той сцежцы ў краму.
Дый у слуп разумны – бомсь! –
Галавою прама.

Трэ, нябога, ладны гуз,
Што, як мяч, ускочыў.
Усміхнуўся дзед у вус:
«Вось жа, гад, не збочыў!»

**Сцяпан ЦАРЫК,**
*г. Брэст.*



# Сунічная мазаіка

*Крыжаванка*

*Падказка: усе словы пачынаюцца з літары С.*



**Па гарызанталі:**

**1.** Моцнае захапленне, якое не стрымаць. **4.** Бугарок на паверхні языка. **6.** «Суніцы спелыя збірай, \\ Няхай палае ... барвовы». *З верша С. Грахоўскага.* **9.** Так называюць нікацінавую смалу, што застаецца пасля курэння ў цыбуку люлькі. **11.** Балгарскі грошык. **12.** «Вецер абнімае \\... яе дзявочы, \\ Сонца ёй цалуе \\ Шыю, твар і вочы». *З верша Я. Купалы*. **13.** Рэзкі, высокі гук, які можна пачуць ад птушак. **15.** Сухая зямля ў параўнанні з балотам. **16.** «Няма дзе катку схавацца: \\ Чуць сінее лес далёкі, \\ І ... за тры валокі». *З верша Я. Коласа*. **19.** Дрэва, пад якім лёгка заблукаць, асабліва калі яно расце па тры штукі. **20.** Даўняя беларуская страва – мёд або цукар, разведзеныя вадой. **24.** Сельскагаспадарчая машына для складання стагоў, сціртаў. **25.** ... седакоў не воз, абы конь вёз *(прыказка)*. **26.** «... – самая пара, \\ Каб паехаць па суніцы \\ У лясны таемны рай». *З верша С. Локтыш*. **27.** Дзе сава і ..., там носа не тыч *(прыказка)*. **28.** «Хоча Насця падзяліцца \\ з коцем спелаю суніцай, \\ але гэта ... \\ не прывабіла ката». *З верша Р. Баравіковай*. **29.** Не думай, што заўтра мароз, а ідзі на ... *(прыказка)*.

**Па вертыкалі:**

**2.** «Цераз ... – вінаград \\ Пагнала цялятка. \\ Туды маё сэрца рвецца, \\ Дзе мілога хатка» (прыпеўка). **3.** «І ... спелай суніцай \\ У стоме хіліцца за бор». *З верша А. Мінкіна*. **5.** Цэлы дзень касіў ..., а за ноч каза з'ела *(прыказка)*. **7.** ... коп не грошы, абы хлопец харошы *(прыказка)*. **8.** «Аб ёй мне баюць казкі-... \\ Вясеннія праталіны». *З верша Я. Купалы.* **10.** «Ой, ... чырвоныя, \\ Чабаровы туман». *З верша В. Леанені*. **12.** Слівовая наліўка. **13.** Жаночая вопратка тыпу кароткага прасторнага паліто. **14.** Калі яна трапляе чалавеку ў рот, ён пачынае рагатаць. **17.** Інфекцыйнае захворванне. **18.** «Як ...» – кажуць пра таго, хто сядзіць нерухома. **21.** Званне духоўнай асобы. **22.** У грэчаскай міфалогіі: спадарожнік бога віна і весялосці Дыяніса. Мае казліныя ногі, рогі ды бараду. **23.** Паўночная прэснаводная прамысловая рыба. **24.** І кошка бліноў напячэ, калі ... сцячэ *(прыказка)*. **26.** Белы снег, ды не сыр, добры зяць, ды не ... *(прыказка)*.

**Адказы:**

**Па гарызанталі:**
**1.** Страсць. **4.** Сасочак. **6.** Сок. **9.** Сос. **11.** Стацінка. **12.** Стан. **13.** Свіст. **15.** Суша. **16.** Сям'я. **19.** Сасна. **20.** Сыта. **24.** Стагакід. **25.** Сем. **26.** Сёння. **27.** Сыч. **28.** Смаката. **29.** Сенакос.

**Па вертыкалі:**
**2.** Сад. **3.** Сонца. **5.** Сена. **7.** Сто. **8.** Сны. **10.** Суніцы. **12.** Слівянка. **13.** Сак. **14.** Смяшынка. **17.** Сепсіс. **18.** Статуя. **21.** Сан. **22.** Сатыр. **23.** Сіг. **24.** Сала. **26.** Сын.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*




- Узбуджальнік – будзільнік.
- Целаахоўнік – раўнівец.
- Цюцелька – маленькі сабачка.
- Цягнік – злодзей.
- Чартапалох – крыж.
- Чарцёж – зборышча чарцей.
- Шыцік – кравец.

**Соф'я КУСЯНКОВА,**
*Рагачоўскі раён,*
*в. Лучын.*

- Вязень – світар.
- Гадзіннік – прыбіральня.
- Гарбата – жонка вярблюда.
- Каленкор – аматар жаночых каленак.
- Лазня – дзірка ў плоце.
- Падводнік – чалавек, які ўсіх падводзіць.
- Падручнік – разнарабочы.
- Псаваць – напалёўваць сабаку.
- Рэкламацыя – рэкламная акцыя.
- Серпентарый – сховішча сярпоў.

**Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

Пётр СЯМІНСКІ

# ДАСВЕДЧАНЫ КАНТРАБАНДЫСТ

*Быль*

Я вяртаўся з Варшавы. Маім суседам па вагоне аказаўся Васіль — весялун з Гародні, які ўсю дарогу займаў мяне размовай і расказваў пра сваё жыццё. Ён упэўнена агучваў такія захапляльныя былі, якія мне здаваліся ладнай хлуснёй. Са слоў самаўпэўненага балбатуна вынікала, што ён з'яўляецца дасведчаным і паспяховым кантрабандыстам. Васіль хваліўся, што самы першы раз, яшчэ ў далёкія дзевяностыя гады, ён прыкрыў некалькі лішніх блокаў цыгарэт у сваім рэчмяшку двума нумарамі ўсесаюзнага сатырычнага часопіса «Кракадзіл». Калі супрацоўнікі мытні спыталі, што ён вязе, той шчыра адказаў:

– У мяне два замежныя кайманы.

Пасля гэтых слоў Васіля нібыта акружылі супрацоўнікі мытні і загадалі адкрыць дарожную сумку. Ён выканаў загад і паказаў ім часопісы. Хлопцы ў пагонах пасмяяліся і рушылі далей па вагоне. Правяраць, што ляжала пад ілюстраванымі пераплётамі, яны не сталі.

Наступным разам Васіль прызнаўся мытнікам, што вязе вожыкаў. Калі перад здзіўленымі служачымі ён адкрыў свой саквояж, там знайшлося некалькі свежых нумароў беларускага сатырычнага часопіса. Служачыя, як і ў мінулы раз, пасмяяліся, але не сталі праводзіць больш пільны дагляд. Так, калі верыць веселуну, ён правёз «ювелірную дробязь».

А ў трэці раз Васіль наўмысна падабраў дзень, каб сустрэцца з той жа брыгадай правяраючых. Вырашыў зусім не хлусіць, а сказаць праўду, маўляў, вязе цэлы чамадан гарэлкі. Старыя знаёмыя паківалі галовамі, пажартавалі і, каб у чарговы раз не патрапіць у няёмкае становішча, багаж не правяралі. Так сумленна агучаны забаронены груз не знайшлі, і ён быў удала прададзены.

Адчувалася, што дадзеныя сюжэты Васіль пераказваў ужо не першы раз. Я свой недавер выказваць не стаў. Бо пад пустую балбатню час пралятаў значна хутчэй.

І вось нарэшце ў цягнік увайшлі мытнікі. Прадстаўнікі польскага боку паставіліся да нас фармальна: бегла агледзелі сумкі і пайшлі далей. Убачыўшы ж беларускіх мытнікаў, Васіль узрадавана пацёр далоні і абвясціў:

– Мае знаёмыя. Усё будзе проста вышэйшы клас!

Малады лейтэнант увайшоў у купэ, запатрабаваў пашпарты. Глянуў на мяне сур'ёзным позіркам і вярнуў дакумент. А ў Васіля спытаў:

– Што вязём?

– Канфеці, – адказаў Васіль і працягнуў мытніку папяровую трубачку.

– Але гэта звычайная хлапушка, – здзівіўся служачы. – Вось тут маецца разьба, па якой прыкручваецца капсуль. Адзін абарот у патрэбны бок, і атрымлівай выбух.

– Не, – не пагаджаўся Васіль, – я купляў канфеці для школьнага тэатра. Можа, гандляр мяне падмануў? Паверце мне, таварыш лейтэнант. А лепш выпіце кавы. Я яе толькі што заварыў вось з гэтай бляшанкі.

Твар мытніка ўпрыгожыла ўсмешка сталага ката. Ён не адмовіўся ад пачастунку, узяў у левую руку кубак з напоем, а правай дастаў з кішэні сцізорык і запіхнуў яго ў ёмістасць з эмблемай вядомай кававай фірмы. Лязо паглыбілася ў карычневы парашок, але спынілася прыкладна на палове аб'ёму бляшанкі. Мытнік моцна націскаў ножыкам на невядомае змесціва. Прагучаў выбух, а потым яшчэ некалькі! Гэткія гукі вельмі радуюць хлапчукоў пад Новы год. Ад нечаканасці лейтэнант выліў астылую каву на сябе і ў той жа момант змесціва бляшанкі вылецела вонкі проста ў твар супрацоўніка мытні. Васіль з-за ўнутранага напружання выпадкова крутануў хлапушку, і з яе ў розныя бакі разляцеліся рознакаляровыя папяровыя кружочкі. Некаторая іх частка дапоўніла выпадковай вясёлкай «маску негра» пад фуражкай лейтэнанта.

На выбух прыбеглі калегі служачага.

– Затрымайце яго, – прамовіў той, паказаў на Васіля і спешна адвярнуўся да акна. – Выводзім. Багаж ягоны канфіскуем.

Калі загад быў выкананы, «афраамерыканец» у пагонах спешна накіраваўся ў бліжэйшую прыбіральню. Калі ён памыўся, яшчэ раз зазірнуў да мяне ў купэ і праз смех, заўважыў:

– Перавозка хлапушак не забароненая. А вось капсулі ў асобнай ёмістасці – гэта ўжо небяспечная піратэхніка. Дагуляўся ваш сябар...

Калі цягнік кранууся, я заўважыў на парозе станцыі спалоханага Васіля і ціхенька прамовіў:

– Шкада, не пойдуць далей у народ захапляльныя гісторыі: дасведчаны кантрабандыст усё ж такі пракалоўся...

*г. Гродна.*

# Думкі ўголас

Ці шмат даб'ешся ў жыцці, калі будзеш біцца галавой аб сцяну?

Калі жанчына сочыць за сваёй фігурай, то мае больш шанцаў стаць значнай фігурай у цэнтры мужчынскай увагі.

Падхалім усім пыл у вочы пускае, і толькі з шэфа пылінкі здымае.

Лепей, калі рубель б'е па цэнах, а не па кішэнях.

Нявыхаваныя людзі ўвесь час на своеасаблівай дыеце, бо ніколі не спажываюць духоўнай ежы.

Хто гне сваю лінію, той і палку нярэдка перагібае.

Сумна, калі светлыя галовы займаюцца цёмнымі справамі.

Калі цэны кусаюцца, дык і локці кусаць ахвота.

Звычайна пальцам не паказваюць на таго, на каго махнулі рукой.

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*






Аляксандр ПЯТРОЎ.




Сяргей ВОЛКАЎ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Алег ГУЦОЛ.

# Інтэрнэт: жартуе ўвесь свет!



Калі ў душы ты – піяніст



Цуда інжынернай думкі



Каб нават іншапланецянін зразумеў!




«Зямля ў ілюмінатары»



«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 5 (1544), 2017 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ПІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by; vozhyk@zviazda.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 10.05.2017. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,57. Тыраж 900 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

Матэрыялы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца, прымаюцца толькі ў электронным выглядзе.
Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык».
Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2017
© РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», 2017



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.



# Малюе Аляксандр КАРШАКЕВІЧ














# «Вожыкаўскі плакат»







Аляксандр ШМІДТ.



З «Вожыкам»-сябрам няхай будзе лета
Сонцам, цяплом, пазітывам сагрэта!

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – 74844,**
**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) – **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ – 748442,**
**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) – **01381**.



**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2017 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 4,00 рублёў,
індэкс 01380, цана 3,20 рублёў,
індэкс 748442, цана 11,30 рублёў,
індэкс 01381, цана 9,00 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

